Zianon PAŹNIAK: Treba nazapasić siłu

Star. 8

# РУНЬ

Беларуская газэта ў Вільні

Maryja ŠUTOVIČ: Maja praca ŭ biełaruskim prytułku ŭ Vilni

Star. 11

ISNN 1392-7671 № 75-76 Ліпень – жнівень 2016 г.

## ДАСЛОЎНА

### Światkawańnie Kupały ŭ Wilni

Wilenskije biełarusy starańniem «Biełaruskaho Muzykalno-Dramatyčnaho Kružka» u noč z 23 na 24 červienia spraulali «Kupału». Narodu było kala 300 čeławiek, katoryje sabralisia spierša za horadom i tamaka hulali, a pośle z muzykaj i wienkami pajšli na biereh reki Wilii, dzie užo stajali przybranyje ŭ zieleń i ahni parachody i čoŭny; i sieŭšy na ich, papłyli ŭniz pa wadzie ŭ horad. Tut, zawiarnuŭšysia na rece, iznoŭ papłyli nazad. Jedučy ŭniz, puskali pa wadzie wianki s paprylepliwanymi świeckami. Narodu na abodwych bierehach Wilii sabrałosia hladzieć na biełarusoŭ kala 20-25 tysiač. Usie ždali, što na parachodach budzie ihrać muzyka i śpiewać biełaruski chor, ale to było zabaronieno. Wiarnuŭšysia na miejsce, adkul jechali, maładzież najpierš pajšła hulać «Lawonichu», a pośle, pabraŭšysia za ruki, chłopcy i dzieŭčaty skakali praz ahoń; chor piejaŭ bielaruskije pieśni. Zabaŭlalisia usie wielmi wiasioła. Biełarusy pakazali ŭsiej Wilni, sto umiejuć i patrapiać hulać staraświeckim prostym swaim zwyčajem.

Adnym słowam, światkawańnie udalosia nadta dobra, niahledziačy na toje, što niekatorym «istinno-polskim» i «istinno-ruskim» ludziam naša hulnia stajala kościu u horli, i jany rabili usio, sto mahli, kab adhawaryć ludziej ad światkawańnia Kupały dy tak abo inakš papsawać jaho.

*„Naša Niwa", № 25-26, 1911 h.*

# "Сябрына": Купальле-2016



**Вось ужо амаль дваццаць гадоў літоўскія беларусы кожнае лета на свой лад адзначаюць Купальле. Сьвяткаваньне Янава дня зьяўляецца адным з самых важных мерапрыемстваў у календары нашых спакрэвічаў. Ня дзіва: браць удзел у Купальлі трэба абавязкова ўсім. Нездарма народная мудрасьць кажа: хто ня быў на Купальлі – бадай таго закапалі.**

Сёлета 2 ліпеня, як і ўжо некалькі год запар, сябры беларускіх грамадзкіх арганізацыяў Літвы сабраліся ў вёсцы Янковічы, што ў Троцкім раёне.

— У гэтым годзе было цяжкавата, – уздыхае ўдзельніца сьвята, в.а. старшыні Беларускай суполкі Сьвянцянскага раёну Марыя Рабовіч. – Нас не падтрымаў Дэпартамэнт нацыянальных меншасьцяў Літвы, не атрымалі ніякай дапамогі ад іх. Можа, на другі год атрымаем, будзем спадзявацца. Затое нас падтрымала амбасада Беларусі ў Літве. Яны такі прыгожы ансамбль нам на сьвята прывезьлі! Быў ансамбль і з Клайпеды ў нас, і зь Вісагінаса. Сяргей Шабадалаў вёў усю праграму. Гэта ён за ўсё адказваў. Ён там зладзіў і велізарнае вогнішча, і феерверк. Гэта было цудоўна!

У той самы дзень традыцыйнае купальскае вогнішча палала і ў сталіцы, на беразе Вяльлі, каля старога віленскага парку. Тут вырашылі адзначыць дзень летняга сонцастаяньня сябры Віленскага гарадзкога клубу "Сябрына".

— Тут мы ладзім Купальле ў другі раз, – паведаміў старшыня клубу "Сябрына" Валянцін Стэх. – Абодва разы прыкладам для нас зьяўляецца сьвяткаваньне Купальля сто гадоў таму нашымі суайчыньнікамі тут у Вільні. Тады яны пачыналі з Антокаля, ад касьцёла Сьвятых Пятра й Паўла: арганізоўваўся шэраг чоўнаў, плытоў, барак – хто на чым мог, той на тым спускаўся. Усё гэта адбывалася ў суправаджэньні песень, музыкі, з пусканьнем вянкоў па рацэ, і пры вялікай колькасьці цікаўных людзей, дзясяткі тысяч якіх стаялі абапал гэтай ракі і назіралі за беларускім Купальлем. Такім чынам яны спускаліся па гэтай рацэ, прыставалі на левым беразе, то бок у Закрэце, у парку Вінгіс. І там сьвята працягвалася да самай раніцы і нават даўжэй. Людзі вадзілі карагоды вакол вогнішча, пускалі вянкі па вадзе, раніцай каталіся па траве, так-бы мовіць, убіралі жыватворную сілу расы. Гэтае сьвята было адметнай зьявай.

Паводле газэты "Наша ніва", масавае сьвяткаваньне Купальля віленскімі беларусамі ініцыявалі сябры Беларускага музычна-драматычнага гуртка ў 1911 годзе: "... Народу было каля 300 чалавек, якія

*Працяг на стар. 14*

# Ina Alaškievič

**Apošnimi hadami akurat u lipieni vilenčuki vypraŭlajucca ŭ apošniuju darohu za niebakraj. 2 lipienia 2012 h. pajšoŭ u lepšy śviet historyk, žurnalist i kazačnik Siaržuk Vituška. Praz hod, 25 lipienia 2013 h., nia stała kolišniaha navučenca Vilenskaj biełaruskaj himnazii, pedahoha j šachmatysta Jarasłava Stankieviča. Letaś, napačatku lipienia 2015 h. u litoŭskaj stalicy paśla ciažkoj i nievylečnaj chvaroby spyniłasia serca nastaŭnicy j žurnalistki, adnoj z aŭtarak biełaruskaj pieradačy Litoŭskaha radyjo "Dla vas, suajčyńniki" Iny Alaškievič.**



*Fota z asabistaha archivu I.Alaškievič*

Na złomie tysiačahodździaŭ Ina Alaškievič na niekalki hadoŭ dałučyłasia da redakcyi telepieradačy "Vilenski ššytak". Napačatku kožnaha vypusku jana znajomiła hledačoŭ sa śviežymi navinami z metrapolii. Praca na televizii nie zaminała Inie Alaškievič rupicca pra radyjopieradaču "Dla vas, suajčyńniki", zapačatkavanuju jašče Lavonam Łuckievičam i Halinaj Vojcik, a taksama ščyravać u navučalnych ustanovach Litoŭskaj Respubliki. Usio-ž pačałosia ź Vilenskaha pedahahičnaha ŭniversytetu (ciapier Litoŭski ŭniversytet edukalohii), dakładniej, jahonaj katedry biełarusistyki, adnoj ź pieršych studentak jakoj i stała Ina Alaškievič.

— Hety kurs uzhadvajecca časta i z asablivaj ciepłynioj, - dzielicca ŭspaminami dyrektarka Centru biełaruskaj movy, litaratury j etnakultury LUE Lileja Płyhaŭka. - Heta byŭ pieršy nabor. Zrazumieła, što, kali ŭviesnu išła ahitacyja, ludzi, ja-by tak skazała, ryzykavali, tamu što było nieviadoma, ci pačnie pracu katedra ci nie pačnie, adbudziecca hety nabor ci nie adbudziecca. I tamu studenty, jakija da nas pryjšli, byli vielmi metanakiravanyja, prahnyja da viedaŭ, vielmi chacieli spaznać Biełaruś. U hetaj hrupy była asablivaja aŭra, i stvarałasia jana najpierš dziakujučy lideru, a lideram była Ina.

Katedra biełaruskaj movy, litaratury i etnakultury, na jakoj raspačali padrychtoŭku budučyja vilenskija biełaruskija nastaŭniki, źjaviłasia na fakultecie słavistyki Vilenskaha pedahahičnaha ŭniversytetu ŭ 1991 h. Biełarusam-vilenčukam daviałosia zajmacca ahitacyjaj abituryjentaŭ na novuju humanitarnuju specyjalnaść. Zrešty, pavodle žurnalistki Taćciany Pokład, jakoj daviałosia chadzić pa školach z raspoviedami pra novastvoranuju katedru, Ina Alaškievič znajšła darohu na fakultet słavistyki VPU samastojna.

— U pačatku dzievianostych heta było masava, - zhadvaje litaratar Andrej Antonaŭ, jakomu sobiła vučycca ŭ VPU adnačasova ź Inaj Alaškievič. - U pieršyja dva-try nabory studentaŭ na biełarusistyku prychodzili matyvavanyja ludzi. Jany nia dumali, što skončać pedahahičny ŭniversytet i buduć ci ni dnia nia buduć pracavać pa specyjalnaści, ale jany viedali, na što iduć, kudy iduć, čym buduć zajmacca, i im było heta cikava.

Daloka nia ŭsie abituryjenty novaj katedry mieli biełaruskija karani. Zrešty, pavodle Lilei Płyhaŭki, vykładčyki zaŭvažyli, što jany nadzvyčaj chutka stali čytać, pisać i razmaŭlać pa-biełarusku. Zhodna z vysnovaju navukoŭcaŭ, hetak spracoŭvała hienetyčnaja pamiać.

— Maje baćki i Iny taksama - vychadcy ź Biełarusi, jany pryjechali maładymi ŭ Vilniu vučycca, - patłumačyła adnakurśnica Iny Alaškievič, žurnalistka j nastaŭnica Edzita Šukievič. - Niekatoryja lety, naprykład, ja pravodziła ŭ svajoj babuli. Jana dała asnovy biełaruskaj movy, heta była nie zusim biełaruskaja mova, my razmaŭlali pa-tutejšamu.

Ahulnuju movu niešmatlikim vilenskim studentam-biełarusistam sobiła znajści nia chutka. Syścisia bližej i pasiabravać na ŭsio žyćcio im dapamahła sumiesnaja praca ŭ vilenskich biełaruskich srodkach masavaj infarmacyi.

— Ina ŭ kancy 1993-ha ci ŭ pačatku 1994-ha hodu ŭ Tavarystvie biełaruskaj kultury ŭ čarhovy raz pasprabavała vydavać hazetu "Biełarus Vilenščyny", - zhadaŭ Andrej Antonaŭ. - Jana prychodziła da nas u redakcyju "Našaj nivy": choć TBK mieła svaje asobnyja damki, ale zimoju jany rabili schody ŭ redakcyi "Našaj nivy", bo, vidać, ciaplej było, i my sustrakalisia ŭsio roŭna ŭ adnym pamieškańni. Va ŭniversytecie my ź Inaj praktyčna nie kantaktavali. Na "Bałtyjskich chvalach" my pracavali razam u studyi: ja - jak pradusar, a jana - jak dyktar, i heta byŭ adzin z samych pryjemnych dośviedaŭ z taho času. Nie było ŭ studyi čałavieka, ź jakim mnie było-b tak lohka pracavać.

Jašče padčas navučańnia ŭ Vilenskim pedahahičnym universytecie Ina Alaškievič pasiabravała ź Lavonam Łuckievičam, jaki čytaŭ dla studentaŭ dadatkovy kurs pa biełaruskaj Vilni j rychtavaŭ ź ich ekskursavodaŭ. Na dumku Lilei Płyhaŭki, hetaja infarmacyja akazałasia joj nastolki blizkaja, što paźniej jana pryjšła supracoŭničać u biełaruskamoŭnuju pieradaču "Dla vas, suajčyńniki" na chvalach Litoŭskaha radyjo. Zasnavalnikam i viadučym medyjnaha prajektu, pieršy vypusk jakoha byŭ zapisany 25 sakavika 1989 h., byŭ zachavalnik ahniu vilenskaj biełaruščyny Lavon Łuckievič.

— My ź Inaj pracavali na radyjo sa śvietłaj pamiaci Lavonam Łuckievičam, z žyvoj vilenskaj lehiendaj, - kaža Edzita Šukievič. - Mabyć, heta była najlepšaja ŭ maim žyćci škoła biełaruskaj movy, litaratury i ŭvohule paznańnia biełaruskaj Vilni. Miarkuju, što, kali-b nia toje pakaleńnie, nie było-b i biełaruskich mianie, Iny. Ja dumaju, Ina skazała-b toje samaje. Jakraz praź Inu ja bližej paznajomiłasia ź siamjoj Lavona Łuckieviča. Halina Antonaŭna Vojcik uvohule stała siabram i nastaŭnikam - pry hetkaj roźnicy va ŭzroście jana dobra staviłasia da nas. Kožny tydzień my prychodzili da jaje, kab parazmaŭlać pra pieradaču, što j jak my budziem rabić. Dziakujučy našym pasiadziełkam raz na tydzień za harbataj, my adkryvali Vilniu, a paśla my jašče vandravali pa joj. Dla mianie biełaruskaja Vilnia była nieviadomaja. Hetak ź Lavonam Antonavičam my jaje dla siabie adkryvali.

— U bolšaści našych studentaŭ nie było vyražanaj nacyjanalnaj samaidentyfikacyi, - paviedamiła Lileja Płyhaŭka. - Jany ŭ asnoŭnym u nas byli haradžanie, i tamu ŭ ich była asablivaja luboŭ da svajho horada j praha da jaho spaznańnia. I jakraz-taki padčas vučoby ŭ nas jany bačyli hety horad zusim pa-inšamu i prychodzili da vysnovy, što ničoha pra jaho nia viedajuć, i tamu duša ŭ ich raskryvałasia.

— Naohuł sustreča ź siamjoj Łuckievičaŭ była najlepšaj školaju jak dla nastaŭnika, tak i dla žurnalista, - zhadała Edzita Šukievič. - Pieršyja razy, kali my brali interviju, Lavon Antonavič chadziŭ z nami, prosta davaŭ nam u ruki mikrafon i havaryŭ: "Chadzi j razmaŭlaj". Taki žach! Ci byli my dobrymi

*Praciah na star. 11*

# Сяргей ГВАЗЬДЗЁЎ
# Юбілейная выстава з пасьляслоўем

**Сёлета, 24 ліпеня, памёр мой сябра Сяргей Гвазьдзёў. Хацеў быў напісаць "мастацтвазнаўца", але-ж ці прафэсія вызначае галоўнае ў чалавеку? А чалавек Сяргей быў сьветлы, удумлівы, дасьціпны, але часта й заклапочаны. Мабыць, праз тое, што не знаходзілі ў беларускім грамадзтве падтрымкі ягоныя "мастацтвазнаўчыя" ідэі ды праекты. А ён быў сапраўдным генэратарам тых ідэяў. Тычыліся яны пераважна заходнебеларускага мастацтва, а шырэй, мастацтва Віленскай Школы (Сяргеева вызначэньне), складнікам якога было і ўласна беларускае мастацтва, а яшчэ шырэй - гісторыі культуры ВКЛ. Знакавым для Сяргея стаўся ягоны праект "Шляхецкія сядзібы", які спамінаецца ў друкаваным тут артыкуле. Што да мастакоў і мастацтва Віленскай Школы, дык Сяргей быў ейнай сапраўднай "хадзячай энцыкляпэдыяй". Марыў надрукаваць і рыхтаваў да друку ёмістую ілюстраваную манаграфію. Але-ж вось застаўся ад ягоных высілкаў, можа, толькі гэты караценькі газэтны артыкул з нагоды аднае выставы. Для мяне ён гучыць цяпер як тэстамэнт: у ім аўтар сьцісла апавядае пра ўсё, што набалела ў яго на душы праз доўгія гады нястомнай, але дужа няўдзячнай працы на дзівачным "неспазнаным кантынэнце" "ліцьвінскага мастацтва". Цікава, ці ёсьць, ці будуць у яго прадаўжальнікі? Пры мне ўжо адышлі ў нябыт выдатныя віленскія мастакі Уладзімір Кузьменка й Алег Аблажэй. Плённа працуюць Андрэй і Крыстына Балаховічы, Сяргей Поклад, Станіслаў Зяленка. Ці не апошнія гэта беларускія заступнікі легендарнай Віленскай Школы? Хто напіша пра іх?**

*Алег Мінкін*



Сэнтэнцыю, што крызісныя часіны грамадзтва спрыяюць творчым усплёскам, паскарэньню (стымуляцыі, разгортваньню) культурніцкіх ініцыятываў, ілюструе дзейнасьць галоўнай установы Краіны – Нацыянальнага мастацкага музэю на чале з генэральным дырэктарам Ул. Пракапцовым. Сінхронна разьвіваючыся (а як яшчэ?) у афіцыйна-дзяржаўным кірунку, ён адстае ад народжаных жыцьцём духовых патрэбаў беларускай інтэлігенцыі і грамадзтва на гадоў 25-30. Музэй, дзякуй Богу, адышоўся ад паныла-стандартнага "разьвешваньня твораў" і далейшага ўсхвалявана-захопленага "Ах!!!". Рупнасьць і энэргія гэтай паважнай установы ў шэрагу няблага арганізаваных імпрэзаў прыстойнага ўзроўню мастакоў сусьветнага рэйтынгу выклікае пашану й абнадзейвае.

Не пасьпелі гледачы апрытомнець ад культурніцкага шоку, які перажылі ад выставы друкаванай графікі Гоя ды Пікаса – майстроў, чые імёны суседзяць з Рэмбрандтам і Дзюрэрам, а творчасьць якіх сягае ў самыя выззглыбежы духу іспанскага народа – як паўстае новая імпрэза! "Час і творчасьць Льва Бакста (1866 – 1924)"! Выстава мастака-жывапісца, ілюстратара ды рэвалюцыянера ў галіне тэатральнай сцэнаграфіі, чый юбілей адзначаецца пастановаю 38-й сэсіі ЮНЭСКА. Падзея адметная яшчэ й таму, што апрача надзвычайных мастацкіх здольнасьцяў, Л. Бакст меў пэўнае "сваяцтва" з былымі землямі Вялікага Княства. Зладаваная яна з чыннаю дапамогаю сталага фундатара культурніцкіх праектаў ААТ "Белгазтрансбанк" і ёсьць часткай міжнароднага праекта, які будзе працягнуты ў Віленскай карціннай галерэі, у мастацкім музэі "Рыская біржа" і ў Новым Замку Горадні (у экспазыцыі, апрача твораў з НММ РБ ды калекцыі Белгазпрамбанка, экспануюцца рэчы з васьмі музэяў пяці краінаў).

## Водар часу

Мастацкія гурманы, паланёныя духам паэтычнай атмасфэры паэзіі Арсена Таркоўскага (Тринадцатый год был ещё в середине / Неведеньем в доме болели как манией/ Как жаждой три пальмы в горячей пустыне..." і г.д.), удыхнуўшы чароўна-зіхоткія паўгукі і водсьветы фарбаў мастацтва "срэбнага веку", патрапяць у нірвану – дакладна.

"Час...", ягоны водар і адценьні колераў перададзеныя арганізатарамі імпрэзы за кошт густоўна падабраных работ сучасьнікаў і паплечнікаў выдатнага мастака. У экспазыцыі ня менш 250-ці творцаў – суцэльна "топавыя", як кажуць цяпер, мастакі групоўкі "Мир искусств", заснавальнікам (1898) і рупным удзельнікам якой быў Лёвушка Бакст, "художник умной души", паводле выразу Зінаіды Гіпіус. Зорныя імёны, якія не патрабуюць камэнтароў і тлумачэньняў: Аляксандар Бенуа і Міхаіл Урубель, Аляксандар Галавін і Міхаіл Дабужынскі, Станіслаў Жукоўскі й Ісак Левітан... Але ўсіх немагчыма пералічыць у гэтай кароткай газэтнай нататцы. Адзначым хіба мастакоў, зь якімі стасуецца вызначэньне "упершыню": пабачаць менскія гледачы празрыста-музычныя акварэлі Максіміляна Валошына, а таксама не экспанаваныя раней творы Канстанціна

Багаеўскага ды Кузьмы Пятрова-Водкіна. Не абмінуць яны і касмаганічна-таямнічыя творы Мікалоюса Канстанцінаса Чурлёніса, якія пацешаць іхнія вочы "упершыню" пасьля менскай выставы 1911г. – геніяльнага мастака і кампазытара, які "усё сваё мастацтва прысьвяціў Літве".

Пачуцьці нацыянальна-сьвядомых беларусаў, напэўна, адгукнуцца на работы малавядомага ўраджэнца Віцебска Рыгора Баброўскага (1873 г.н. – Ленінград, 1942 г.), асабліва на ягоныя творы "Летам. Ветраны дзень" 1920–1930-я гг. (Пал., ал. 22,3×28,8.), ды "Партрэт Фёдара Шаляпіна", (этуд пал., кард., ал.). Рыгор Бабровскі паходзіў зь сям'і тамтэйшага сьвятара а. Міхаіла і пасьля атрыманьня неблагой адукацыі ў Віцебскай духоўнай сэмінарыі, заснаванай яшчэ ўніяцкім сьветаром Лісоўскім (1807), насуперак бацькоўскай волі, паступіў у Пецярбургскую Акадэмію мастацтваў (1893). Таксама "адкрыцьцём" для гледача станучца творы бліскучага мастака-партрэтыста Савелія Абрамавіча Сорына (1878 – Нью-Ёрк 1953) з Полацка: "Жанчына з ружай" (1910. Пал., ал. 106×70 (авал), ды "Казка" (пал., ал. 81×65,5). Парадуюць іх і работы Зьміцера Сьцелецкага з Брэст-Літоўскага (1875) – Парыж 1947г., які апрача іканапісу ды сюжэтных кампазыцыяў займаўся яшчэ й скульптурай.

Немагчыма ўявіць, што глядач застанецца абыякавым да (зноў жа – упершыню!) экспанаваных акварэляў, дакументальна-мастацкіх краявідаў Горадні, выкананых ліцьвінскім мастаком і кампазытарам, удзельнікам паўстаньня 1831 году Напалеонам Ордаю пасьля ягонага вяртаньня з Парыжа (на выставу яны былі прывезеныя з Кракаўскага Нацыянальнага музэю).

### Шлях

Перад тым, як дакранууца да мастакоўскага сьвету Лейбы Хаіма Розенбэрга, мусім колькі словаў сказаць пра радавод і станаўленьне гэтага "рускага або габрэйскага мастака зь Беларусі", які спачатку атрымаў адукацыю ў Пецярбургскай Імпэратарскай Акадэміі мастацтваў, а тады ў студыях Ж.-Л. Жэрома, у акадэміі Р. Жульена і ў А. Эдэльфельда ў Парыжы, каб урэшце быць услаўленым на Амэрыканскім кантынэнце.

Нарадзіўся ён у 1866 годзе ў сям'і патомнага ганаровага грамадзяніна Горадні Ізраіля Самуіла Баруха Рабіновіча і Басі Розенбэрг. Бакст – псеўданім, утвораны ад дзявоцкага прозьвішча бабці Бакстэр (паводле меркаваньня ізраільскіх анамастаў, прозьвішча паходзіць ад назова мястэчка Бакшты, дзе было іх родавае котлішча). Неўзабаве сям'я перабралася ў Санкт-Пецярбург, дзе па заканчэньні клясычнай гімназіі з парады скульптара Марка Антакольскага (1843-1902) юнак, які належаў да "дыскрымінаванай" нацыі, зрабіўся вольным слухачом Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў. Аднак разам са сьмерцю дзеда абярнуўся ў нівеч матар'яльны дабрабыт, на дробныя аскепікі разьляцелася сям'я.

Дзіву даесься творчаму спрыту і прагнасьці жыцьця, якую меў зьнешне бяскрыўдны і ўсьмешлівы "Лёвік". За зманлівай вонкавасьцю нязграбнага "батаніка" хавалася натура дужая і ўпартая, прагная да ведаў і кожнага новага досьведу. Ён наведвае "Пецярбургскую майстэрню гульняў і навучальных дапаможнікаў" пісьменьніка А. Канаева, аздабляе кніжкі для дзяцей, піша партрэты (у тым ліку і з фатакартак), выконвае замовы царскай сям'і, займаецца малюнкам з "венценоснымі" нашчадкамі. Дае ўрокі акварэлі барону Бенкендорфу. У вадначассе супрацоўнічае з ладным дзясяткам эстэцкіх часопісаў, у якіх ён ня толькі клапоціцца накont "ілюстрацыяў" – мастацкага аздабленьня выданьня, але й дбае пра прыгажосьць тэксту, гарнітуру шрыфтоў! А яшчэ ён выкладае (разам з Дабужынскім) у школе Званцавай, зь якой стартаваў закаханы ў Парыж ягоны зямляк Марк Шагал. Ад гэтага неабачлівага кроку Бакст засьцерагаў яго, мауляў, "Вы не займаецеся тэатрам ды сцэнаграфіяй і таму не выжывеце там...".

Напраўду кажуць – няма прарокаў у сваёй Бацькаўшчыне.

Сам-жа Бакст жыў, улягаючы ў разнастайныя мастацкія заняткі. Не забываўся й на станковы жывапіс, ладзіў выставы, праз што ў 1906 г. атрымаў Ордэн Ганаровага Легіёну. Спрабаваў сілы ў тэатры: рабіў сцэнаграфію для прыватнай антрэпрызы Іды Рубінштэйн, а потым для тэатра Веры Камісаржэўскай.

### Экспазыцыя юбіляра

Яна пачынаецца з найвыразьнейшага мастацкага акцэнта – акварэлі "Рыбак зь піпкай" (1890), якая абуджае ў памяці зухаватагульлівыя радкі: "Когда воротимся мы в Портланд, / нас примет Родина в объятья...". Твор быў набыты Банкам у калекцыю на Брытанскім аўкцыёне. Без вынятку, усе работы майстра вельмі цікавыя і адметныя, але перадусім палоніць дыямэнт другой залі – "Купальшчыкі на Лідо. Венэцыя" (Пал. Ал. 93х143). Гэта адзін зь нешматлікіх каляровых твораў у экспазыцыі. Большасьць жывапісных работ майстра захоўваецца ў ЗША і Санкт-Пецярбургу. Палатно, паказанае ў экспазіцыі, было створанае, калі мастак адпачываў ад парыскага "балетнага" трыюмфу, дзесь у 1909 годзе. Бліскучая, нязмушана-лёгкая кампазыцыя (з намёкам на дзіцячае "няўмельства" – дадаізм), пададзеная ў рэалістычнай манэры, залагоджвае вынятковым спалучэньнем колераў, што трапна перадаюць адчуваньне сьпякотна-бесклапотнага дня на італійскім узбярэжжы. У гады, "когда ещё не воевали с Германией", калі Бакст выконваў ва Ўшы (Швайцарыя) відавочна замоўны пастэльны "Партрэт дзяўчыны ў блакітным", жонкі расейскага дыпляматa В. Хвашчынскага чэскай мастачкі Ружэны Заткавай (і ня варта ўпікаць мастака ў нейкай салоннасьці. Прыгожа! Ёсьць попыт – адпаведна яму і прапанова).

Уласна беларускае прафэсійнае выяўленчае мастацтва ў гэтыя часы толькі вылушчвалася з свайго вопрадзеня, дакладней, было ў стане рэінкарнацыі, але ўжо магло ганарыцца некалькімі рэалістычнымі творамі, графічным мадэрнам ды вокладкаю першага беларускага календара ў выкананьні Язэпа Драздовіча.

З крыху больш як 40 твораў юбіляра, выкананых у розных жанрах і тэхніках, ад жывапісу й графікі да тэатральных эскізаў (усяго іх сем – уласнасьць калекцыі Банка), непаўторныя аўтарскія літаграфіі Бакста (уласнасьць Нацыянальнага Мастацкага музэя), сярод іх моцныя, псыхалягічна пераканаўчыя партрэты-галоўкі Ісака Левітана (1899), Філіпа Малявіна (1899) й Зінаіды Гіпіус (1910).

### Жыцьцё – тэатр і жыцьцё ў тэатры

Сапраўдным апафэозам творчасьці мастака сталася ягонае супраца з балетнымі антрэпрызамі Сяргея Дзягілева. Слушнымі й дарэчнымі ў экспазыцыі ёсьць (рарытэты!) тэатральныя афішы Жана Както, паэта, драматурга, мастака і кінарэжысэра, аўтара першага "сюррэалістычнага спэктакля" й сябра Сяргея Паўлавіча. Менавіта "Русские сезоны", як падаецца, трывала замацавалі моду й попыт на "экспартнага" майстра, які запачаткаваў традыцыю публічнага паказу тэатральных работ на выставах. Надзвычай прыгожыя й шматлікія эскізы убораў, тэатральныя накіды й распрацоўкі дэкарацыяў з экспазіцыі, на жаль, шмат страчваюць на сьценах НММ праз свой камэрны фармат памерам з ладную сурвэтку ў рэстарацыі (каля 30х20 см). Адзінота гэтых рэчаў у "выставовай прасторы" перагукваецца з нястачай "сьвятла люстраў, усхваляванага здранцвеньня глядацкай залі, ледзь улоўных нотак добрай парфумы, гукаў з аркестровай ямы" – карацей, тэатра. Калі шчыра, дык паўнавартасна ацаніць гэтыя рэчы могуць хіба залётныя адмыслоўцы-тэатразнаўцы. І гэта не зважаючы на тое, што ў свой час эскізы і сцэнаграфія Бакста выстаўлялася ў Луўры, а ягоныя жывапісныя палотны каштавалі даражэй за Маціса ды Пікаса. Парыскія дамы, аматаркі вытанчанага шытва, заказвалі яму ўзоры строяў. Згодна з распрацаванымі мастаком эскізамі выраблялiся тканіны ў Эўропе і Амэрыцы (у экспазыцыі дэманструюцца сцэнічныя хітоны і тунікі, выкананыя паводле эскізаў Бакста, якія падкрэсліваюць характары дзейных асобаў). Сцэнічныя касьцюмы ў сваім выкананьні, а таксама ў расфарбоўцы тканіны стылёва пераймалі арт-нуво ("новае мастацтва") у ягонай "флярэальнай" або дэкаратыўна-арнамэнтальнай плынях, народжаных у заможнай Францыі ды Бэльгіі, – і былі ледзь не эталоннымі з гледзішча спалучэньня эротыкі й густу. Мастацкія пошукі ды знаходкі Бакст прыстасоўваў да практычных патрэбаў, дакладней, працаваў на "мяжы" (распрацоўваў дызайн ня толькі вопраткі, але й аксэсуараў: капялюшыкаў, абутку, думаў наконт уласнай лініі парфумы). Мастацтвазнаўца Алена Тэркель, абапіраючыся на ўспаміны мастака-





сібарыта, адзначае, што новае й прыгожае адзеньне надавала Баксту вылучны настрой.

Сацыяльна-грамадзкі фэномен моды, дамінуючы на рынку (у тым ліку і мастацкім) – зьява хуткаплынная, ледзь не прывідная, разам з гэтым і небясьпечная... Да прыкладу, дыктат моды й галерэйнага бізнэсу уважыў латыскае рэалістычнае мастацтва неканкурэнтаздольным. Як адзначае праф. Ул. Зінкевіч, гэткія "фэномены", не зважаючы на адметную сымбалічнасьць і мэтафарычнасьць, вобразнасьць мовы, – здольныя загубіць нацыянальную "школу жывапісу", як тое сталася з надзвычай цікавым і самабытным мастацтвам Латвіі 90-х гадоў.

## Пад заслону

Прыгожая, разнастайная, пасьлядоўная й цэласная формай экспазыцыя тэхнічна, эстэтычна і матар'яльна самадастатковая. Але ня ёсьць лішнім і суправаджэньне яе грунтоўным каталёгам, аўдыёэкскурсіяй, якую распрацавала кампанія ScienceSoft ды інш. дакумантальна-дапаможнымі матар'яламі: кнігамі, дакумантамі й пад., што арганічна спалучаюцца з мастацкім шэрагам. Варта ўхваліць арганізатараў за дадатковую зручнасьць – эксклюзыўна распрацаваныя інфармацыйныя дадаткі для мабільных прыстасаваньняў (на плятформах iOS, Android, Windows Mobile). Калі-ж да ўсяго гэтага суплёту дадаць энэргічныя намаганьні працяглай рэклямнай кампаніі ў СМІ і віртуальнай прасторы ды адмыслова наладжаную працу кінаклюбу з дэманстрацыяй мастацкіх стужак пра эпоху мадэрна ("Како Шанэль і Ігар Стравінскі" (рэж. Ян Кунен, вытворчасьць Францыя-Японія-Швейцарыя, 2009), "Карабель плыве" (рэж. Федэрыка Феліні, вытворчасьць Італія-Францыя, 1983), "Рэгтайм" (рэж. Мілаш Форман, ЗША, 1981), ды інтэлектуальную кульмінацыю мерапрыемства, прэзэнтацыю кнігі "Лев Бакст: Жизнь пером Жар-птицы", якую напісаў дырыжор і апякун выставы (аўтар ідэі й канцэпцыі), Ул. Шчасны, – дык "аб лепшым можна толькі марыць...".

Выдатна, што мы яшчэ раз на свае вочы пабачылі й зведалі зорку Парыска-Амэрыканскай моды (маскультуры адпаведна) 20-30-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Але... Было-б ня ветліва і несумленна асобна не адзначыць унёсак ААТ "Белгазпрамбанк" (старшыня праўленьня Віктар Бабарыка), галоўнага мэцэната Краіны ў справе рэінкарнацыі й аднаўленьня неперарыўнага шляху развіцьця культуры Беларусі, які запачаткаваў калекцыю мастацтва і вызначыў эстэтычны камэртон сваёй дзейнасьці выставай "Х стагодзьдзяў беларускай культуры". ААТ "Белгазпрамбанк" узбагаціў Краіну артэфактамі сусьветна вядомых мастакоў, ураджэнцаў Беларусі, сярод якіх творы Хаіма Суціна, Марка Шагала, Восіпа Цадкіна, Восіпа Любіча, Міхаіла Кікойна, Файбіш-Шрагі Царфіна ды іншых мастакоў "парыскай школы". Банк адразу ж пераадолеў высокую плянку мажлівага й дагэтуль з годнасьцю працягвае сваю высакародную справу...

Бакст быў, як казаў той, "трэндам" тэатральнай (высокай) моды, незаменным "шрубком" філязофіі грамадзтва, геданізма й спажываньня. Гаючае "мастацтва для мастацтва", ягоная эстэтыка і сьветагляд, безь пярэчаньняў, маюць права на існаваньне...

Разьвітваючыся з гасьціннымі й нават люднымі залямі музэю, усьведамляеш: выстава атрымалася! Зьніклі невялічкія калейкі ў музэй (!) у сераду, аціхла актыўная рэклямная кампанія, юбілей мінуў... Усё прайшло "адпаведна задуманай і дакладна выверанай канцэпцыі". Пакідаючы залі музэя, разам з удзячнасьцю арганізатарам, у душы адчуваеш пераплаў роспачы й зьдзіву, бо падаецца, што сапраўднае мастацтва ёсьць штосьці большае за гульню вобразаў і фарбаў, больш усеахопнае, не павіннае "нікому" (ні паказваць, ні навучаць), што яно самадастатковае. Пакутнае і ўсьцешнае, загадкавае і дасьціпнае, яно большае за тэатар, і нават большае за жыцьцё самаго мастака: заўжды для чалавека і людзкой супольнасьці. Але адзінае, што яно "павіннае" – абуджаць душу...

## Некалькі "несвоечасовых" думак – або Ў чаканьні Гадо

У скрушныя часіны агульнай крызы больш, чым раней, актуалізуюцца праблемы беларускай культуры й далейшага выпрабаваньня і гартаваньня ейных гуманітарных складнікаў. Сапраўдных, а ня модных папулісцкіх ці павярхоўных: мовы, нацыянальнай ідэі, выяўленчага мастацтва ды маральных каштоўнасьцяў. Падмурка, на якім грунтуецца фэрмэнтная рошчына мэнталітэту грамадзтва, "сьветагляду народа", ад узроўню якога ня менш, чым ад эканомікі й "дабрабыту", залежыць будучыня Краіны. Гэта настолькі відавочна, што нездарма 2016 год абвешчаны "Годам культуры".

Генэральны мецэнат Краіны Белгазпрамбанк проста ня мае права (перад сабой і абнадзеянай Беларусьсю) "зьніжаць градус" сваёй дабрачыннай ды эстэтычна-духовай дзейнасьці пасьля выставы "Х стагодзьдзяў...". Тым больш, што галоўны спажывец гэтых мастацка-разумовых дабротаў – інтэлігенцыя, прадстаўнікі бізнэсэлітаў і будучыня (студэнцтва) чакаюць сапраўдных адкрыцьцяў...

Высілкі Мастацкага музэю ды інш. у справе зьбіральна-асьветнай працы беларускай спадчыны можна ўважаць пасьпяховымі толькі часткова. Значная частка мастацкай спадчыны (тая, што вызначае ейную этнічную ідэнтычнасьць) ня толькі "кепска" знаёмая шырокаму колу гледачоў, але й бальшыні "афіцыйных" знаўцаў. Дзяржава (МінКульт) пры ўсім сваім жаданьні ня ў стане адкрыць "неспазнаны кантынэнт" гісторыі, культуры й мастацкай спадчыны народа, які мае агульнае найменьне – Віленская Школа, званая так таму, што наўрад ці хто здольны сёньня даць ёй іншае, уцямнае, аргумэнтаванае й вычарпальнае вызначэньне ў прасторы й часе. Гаворка ў фармаце "Круглага стала" альбо Інтэрнэт-канфэрэнцыі (з улікам шырокага спэктру меркаваньняў) пра гэтую гуманістычную, трансгеаграфічную й надэтнічную ў сваёй сутнасьці духовую зьяву, што грунтуецца на сьветапоглядзе італійскага Адраджэньня, спадзяемся, наперадзе.

Ня надта актуальная для сучаснай Літвы й непрыдатная для Рэчы Паспалітай пасля сьцьвярджэньня собскай дзяржаўнасьці "тэма" вы-

ставы беларускай прысутнасьці ў межах Віленскае Школы (на глебе гадаванцаў ВУСБ) будзе ня толькі "паліткарэктнай", але й актуальнай, бо гістарычна засьведчыць мастацкую прысутнасьць беларусаў у эўрапэйскай прасторы.

Выразную і адметную Віленскую Школу, фактычна "рэпрэсаваную яшчэ ў 40-я гады", рэпрэзэнтуюць постаці такіх выдатных творцаў "заходнебеларускай" плыні, гадаванцаў ВУСБ, як Міхась Сяўрук (1905, Варшава — 1979, Нясьвіж), Пётра Паўлючук (1900, м. Орлі на Беласточчыне — 1990, Буэнас Айрэс), Аляксандар Лазіцкі (1903, Пінск — 1990, Мінск), Пётра Жынгель (1898, Докшыцы — 1983, Гданьск), Язэп Горыд (27.07.1896 — 01.09.1939), Леў Дабржынскі (1907 — 1937, Лоша), Кузьма Чурыла (1908, Круты Бераг пад Новым Сновам — 1951, Торунь), Валянцін Рамановіч (1907, Карэлічы — 1944, Вільня), Зьміцер Крачкоўскі (1910, в. Чаркасы на Ашмяншчыне — 1983, Маладэчна). Іх творчасьць, невядомая на Радзіме, ацэненая ў Літве, Чэхіі, Польшчы, Расеі ды іншых краінах. Няма іх работ толькі ў Беларусі, хоць паасобныя творы вышэй памянёных мастакоў можна яшчэ набыць там на аўкцыёнах і ў прыватных асобаў.

Не нашмат лепшая й сытуацыя зь іхнымі папярэднікамі з XIX ст. – "ліцьвінскімі мастакамі", якіх вярнуў у духова-мастацкі й інтэлектуальны ўжытак (асяродак) яшчэ сьв. памяці Леанід Дробаў (1926 — 2002), які спрачаўся на акадэмічным рынгу з Уладасам Дрэмам за імя "айцазаснавальніка", выўчынніка Рымскай Акадэміі Сьв. Лукі праф. Францыска Смуглевіча (1745 — 1807) (хоць мастацтвазнаўчыя маркеры пазначаюць пачатак "школы" больш раньнімі часінамі, яшчэ ад езуіцкага панаваньня ў Вільні). Афіцыйны-ж адлік (ад канца 1797 г.) нітуецца з заснаваньнем Катэдры рысунка й жывапісу ва ўнівэрсытэце, публічна званым Галоўнай Літоўскай Школай, з прафэсарствам аднакашніка Луі Давіда (1745-1830) Смуглевіча, захавальніка традыцыяў позьняга барока, вучнямі якога былі й Язэп Аляшкевіч, і Гаспар Бароўскі. Навучэнцы Ўнівэрсытэту абапіраліся на глебу барочна-клясыцыстычнай традыцыі (мінскія мастакі Ян Дамель (1780 — 1840) ды Адам Шэмеш (1808 — 1864), крыяў і дужэў рамантычны талент гадаванца Полацкага езуіцкага калегіюма (1811 — 1818) і слухача Віленскай Школы, што паходзіў зь Ігуменшчыны (цяпер Чэрвеньскі р-н) Валенція Ваньковіча. Ня дзіва й не праблема выбудаваць канцэпцыю Віленскай Школы, дадаўшы да спамянёных мастакоў новыя важкія імёны, такія, як самотны Генрых Вейсенгоф з пухавіцкіх ваколіцаў, або імёны патомных мастакоў-віленчукоў Станіслава Богуш-Сестранцэвіча ці тры пакаленьні Сьляндзінскіх, апошні зь якіх, Людамір, прафэсар ВУСБ, рупіўся над адраджэньнем Віленскай Школы. За некалькі гадоў працы ёсьць яшчэ мажлівасьць і творы для калекцыі ААТ прыдбаць (альбо арэндаваць), і рэчы-сакрамэнты ў музэях-касьцёлах-цэрквах прыймець або задакумантаваць на відэа з мэтай далейшай імплікацыі ў экспазыцыйны шэраг. Не праблема нават за некалькі гадоў стварыць калектыўную манаграфію, прысьвечаную Школе. А мо й гэта ўсё зусім не праблема, а толькі пытаньне супольных намаганьняў Дзяржавы (НММ і МК РБ) і "Галоўнага дабрачынца Краіны" з далучэньнем грамадзкіх актывістаў. Зразумела, тут не даводзіцца разьлічваць на хуткі плён (прадбачыцца ня менш за тры гады сур'ёзнай працы), бо гэткія калекцыі не набываюцца "гуртам", а зьбіраюцца паштучна (наколькі вядома аўтару нататкі, у міжнародным аддзеле МК дзесьці з 2009 году "чакае" на станоўчы адказ падобны праект "Шляхецкія Сядзібы").

Крок зроблены. Банкам набытыя ўжо першыя творы да гэтай выставы: "Партрэт Тамаша Зана" Валенція Ваньковіча, "Краявід. Вілія" і "Пуня і азярод" Фердынанда Рушчыца, "Адліга. Белавеская пушча. 1935г." Станіслава Жукоўскага. Гуру гуманізму, мудрэц Леў Талстой, пабачыўшы выяву дыплёмнай работы Рэрыха "Ганец" (набытай Трацьцяковым для калекцыі), параіў мастаку "каб даплыць... заўжды браць вышэй" і ў марах, і ў мэтах, і ў мастацкіх патрабаваньнях, і ў маральных апірышчах...

Такім нам уяўляецца адраджэньне адпрэчанага, фактычна "рэпрэсаванага", заходнебеларускага мастацтва, якое наследавала гуманістычную спадчыну Віленскай Школы. Усё можна зрабіць, калі верыць і працаваць на карысьць сувэрэннай Беларусі.

# Бакст у Вільні

**Прыроджаная гатоўнасьць шчодра падзяліцца каштоўнымі набыткамі ўжо ня раз саслужыла беларускаму народу далёка ня добрую службу. Стаць пракамі ў чужой айчыне было наканавана шматлікім выбітным сынам беларускай зямлі.**

Адным зь іх быў ураджэнец Гародні Лейб Хаім Розэнбэрг, якога ў пазамінулым стагодзьдзі сусьвет зьведаў як мастака, сцэнографа й дэкаратара Лява Бакста. Ягоны сто пяцідзясяты юбілей сёлета зь ініцыятывы ЮНЭСКА трапіў у сьпіс памятных датаў, што адзначаюцца з удзелам гэтай арганізацыі. Рэзананс падзеі актывізаваў стварэньне выставы творчай спадчыны мастака пад назваю "Час і творчасьць Лява Бакста", што сёлета пабачыла сьвет у Віленскай карціннай галерэі.

— Зараз адбываецца і адзначаецца шэраг выдатных юбілеяў добра вядомых як у Беларусі, так і ў Літве асобаў, якія стваралі нашую агульную гісторыю й нашую агульную культуру, – паведаміў падчас урачыстага адкрыцьця выставы міністар культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Сьвятлоў. – Адна з такіх асобаў – гэта, безумоўна, Леў Бакст, юбілей якога мы адзначаем у гэтым годзе.

— Леў Бакст - арыгінальны мастак, - падкрэсьліў калега Барыса Сьвятлова, міністар культуры Літоўскай Рэспублікі Шарунас Біруціс. - Намаляваныя ім партрэты, пейзажы насамрэч непаўторныя. Зрэшты, зьдзіўляў ён творамі і ў іншых жанрах – гэта тэатральныя касьцюмы, дэкарацыі – тое, што ў яго атрымлівалася добра. Бакст стварaў дэкарацыі для тэатраў у Парыжы, Рыме, Лёндане, Брусэлі, Нью-Ёрку, але заўсёды марыў пра свае майстэрні, дзе стварaў-бы тэатральныя касьцюмы.

У склад экспанатаў выставы "Час і творчасьць Лява Бакста" увайшлі восем твораў мастака, што цяпер знаходзяцца ў карпаратыўнай калекцыі "Белгазпрамбанка". Грашыць мецэнацтвам гэтае адкрытае акцыянернае таварыства пачало некалькі гадоў таму, ініцыяваўшы праект "Арт-Беларусь", які меў на мэце вывучаць, прапагандаваць і па мажлівасьці вяртаць на Радзіму творчую спадчыну беларускіх мастакоў з Парыскай школы. Паступова ў карпаратыўнай калекцыі "Белгазпрамбанка" зьявіліся творы іншых славутасьцяў. Сёлета з нагоды ста пяцідзясятага юбілею Лява Бакста газавікі разам з супрацоўнікамі нацыянальных мастацкіх музэяў Беларусі, Латвіі ды Літвы ажыцьцявілі міжнародны праект выставы твораў мастака і сцэнографа пад агульнай назваю "Час і творчасьць Лява Бакста".

– Выставы твораў Лява Бакста адбываліся ў сусьветна вядомых музэях, – зазначыў Шарунас Біруціс. – Вельмі радуе той факт, што, дзякуючы ўдзелу ў міжнародным праекце Літоўскага нацыянальнага мастацкага музэю, у жыхароў Літвы і яе гасьцей зьявілася магчымасьць пазнаёміцца з гэтай цудоўнай выставай. Назва выставы "Час і творчасьць Лява Бакста" вельмі сымбалічная. Леў Бакст быў яскравым прадстаўніком і сымбалем сваёй эпохі, і трэба сказаць, што ён выходзіў за рамкі эпохі, і сёньня можна дзівіцца разнабаковасьці таленту мастака.

— Сёлета, у 2016 годзе з нагоды юбілею, выставы будуць праводзіцца ў шматлікіх гарадох рэспублікі, а таксама ў Латвіі й Эстоніі, – паведаміла супрацоўніца Віленскай карціннай галерэі Ганна Адамовіч. – У нашым музэі выстава пабудзе месяцы два, а пасьля паедзе далей.

Ці толькі месца нараджэньня дае права называць Лява Бакста беларускім мастаком? На першы погляд, нараджэньне ў сям'і гарадзенскага навукоўца-талмудыста, атрыманьне адукацыі ў Акадэміі мастацтваў у Санкт-Пецярбургу, актыўны ўдзел у аб'яднаньні "Сьвет мастацтва", урэшце, стварэньне дэкарацыяў да шматлікіх пастановак "Рускіх сэзонаў" тэатральнага дзеяча Сяргея Дзягілева ў Парыжы ніяк ня зьвязваюць выбітнага творцу зь ягонай Радзімай. Зрэшты, на думку мастацтвазнаўцы Сяргея Харэўскага, у Гародні Баксту собіла скончыць гімназію і пачаць маляваць, а значыць, і падмурак ягонай шматграннай творчасьці закладваўся менавіта ў гэтым беларускім горадзе.

# Śviata nacyjanalnych supołak

**Dzień nacyjanalnych supołak źjaviŭsia ŭ litoŭskim śviatočnym kalendary zusim niadaŭna. Try hady tamu na admysłovym pasiedžańni litoŭskija parlamentaryi pastanavili pryznačyć 21 traŭnia - Suśvietny dzień kulturnaj raznastajnaści - śviatam, ahulnym dla ŭsich nacyjanalnych supołak Litvy.**

Štohod hety dzień adznačajecca na vysokim dziaržaŭnym uzroŭni. Sioleta śviata haściavała va Ŭradzie Litoŭskaj Respubliki. Arhanizatarski kłopat byŭ uskładzieny na plečy supracoŭnikaŭ Rady j Domu Nacyjanalnych supołak. Uračystaje mierapryjemstva ŭšanavali svajoj prysutnaściu hieroi dnia - pradstaŭniki nacyjanalnych supołak Litvy, a taksama siabry dziaržaŭnych i hramadzkich arhanizacyjaŭ i zamiežnyja dyplamaty.

Pavodle premjer-ministra Litoŭskaj Respubliki Alhirdasa Butkiavičusa, u Litvie na praciahu doŭhich stahodździaŭ razam žyvuć raznastajnyja narody. Padčas svajho vystupu na mierapryjemstvie palityk nahadaŭ, što jašče ŭ 1323 hodzie vialiki kniaź litoŭski Hiedymin u svaich listach, jakija jon dasyłaŭ u šmatlikija krainy Eŭropy, zaprašaŭ pradstaŭnikoŭ inšych narodaŭ pierasialacca ŭ Vilniu, abiacajučy dobryja ŭmovy žyćcia j pracy. Vilnia ŭžo z XIV stahodździa była horadam z žycharami roznych nacyjanalnaściaŭ. Tut suisnavali pradstaŭniki raznastajnych narodaŭ.

— Ciešusia, što šmat nacyjanalnaściaŭ i kulturaŭ da sionniašniaha dnia źjaŭlajucca charakternaj rysaju nia tolki Vilni, ale j Litvy, - paviedamiŭ prysutnym na imprezie Alhirdas Butkiavičus. - Historyju Litvy j Vilni stvarali pradstaŭniki šmatlikich narodaŭ. My razam stajali la vytokaŭ dziaržaŭnaj niezaležnaści, razam stvarali volnuju Litvu ŭ 1918 hodzie, razam pieražyli žachi vajny, razam dačakalisia adnaŭleńnia niezaležnaści ŭ 1990 hodzie, razam śviatkavali tysiačahodździe Litvy, razam sustreniem i stahodździe adnaŭleńnia dziaržavy, - važniej za ŭsio, što zaŭsiody razam. Ščyra vinšuju vas z nahody blizkaha Dnia nacyjalnych supołak Litvy. Naprykancy chaču pažadać, kab vy zachoŭvali nacyjanalnuju identyčnaść, svaje pryhožyja tradycyi.

— Śviata - heta zaŭsiody dobra, - miarkuje staršynia supołki tataraŭ Vilenskaj akruhi Halina Miškinienie. - Pryjemna adznačyć hety dzień razam z pradstaŭnikami tytulnaj nacyi Litvy. Štopraŭda, ja hladžu na hetaje śviata krychu ź inšaj pazycyi. Heta nia prosta śviata, heta čarhovy napamin našaj uładzie, što isnuje 14-16 adsotkaŭ inšych hramadzianaŭ, jakija źjaŭlajucca častkaj našaj ahulnaj kulturnaj spadčyny, i što jany isnujuć, robiać svoj niemały ŭniosak u ahulny skarb. Moža, tamu, što ich nia tak i šmat, na ich treba źviartać bolš uvahi, heta jak małyja dzieci, jakija patrabujuć padtrymki j uvahi, ale jany dajuć ahulnaj kultury vielmi-vielmi šmat.

— Dziakujučy hetamu śviatu ty bačyš, što ty pracuješ pravilna, što ty idzieš tym šlacham, jakim treba iści, - padzialiłasia ŭražańniami prezydent Zhurtavańnia biełaruskich hramadzkich arhanizacyjaŭ Litvy Łarysa Ślesarava. - Dziakujučy hetamu śviatu zaŭvažnaja našaja praca. Tut my bačym pracu adzin adnaho, a voś heta haloŭnaje. Bo sustrakajemsia my pa vialikich śviatach, na naradach, a voś tak, u śviatočnaj atmasfery, my sustrakajemsia raz na hod. I heta treba.

Vierahodna, samym pryjemnym momantam śviata staŭ praces uznaharodžvańnia za aktyŭnuju kulturnickuju dy hramadzkuju dziejnaść pa raźvićci j raspaŭsiudzie nacyjanalnaj kultury dy tradycyjaŭ. Padziaki, kvietki i kaštoŭnyja padarunki ad vysokich asobaŭ atrymali šmatlikija ludzi, što spryčynilisia da kulturnaj dziejnaści nacyjanalnych supołak Litvy. Nie zastalisia ŭbaku j biełarusy. Padziaki Departamentu nacyjanalnych supołak Litvy atrymali Łarysa Ślesarava, siabra Vilenskaha haradzkoha kłubu "Siabryna" Taćciana Skarenie. Admysłovym dakumantam i słovami padziaki była ŭhanaravanaja j nastaŭnica kłajpiedzkaj pačatkovaj škoły "Krynička" Alena Mirončyk. Adznačyŭšy razam z usimi Dzień nacyjanalnych supołak, biełarusy Kłajpiedy i vakolicaŭ mieli admysłovuju nahodu dla ŭračystaściaŭ - sioleta Biełaruskaja supołka horada Kłajpiedy "Krynica" adśviatkavała svajo piatnaccacihodździe.

— *21 traŭnia - piatnaccać hod* Kłajpiedzkaj arhanizacyi, i vielmi chaciełasia-b pavinšavać biełaruskuju hramadu Kłajpiedy z hetym śviatam, pažadać im tvorčych pośpiechaŭ,



zdaroŭja, kab u ich chapała siłaŭ i na svaje chatnija spravy, i na našu biełaruskuju supołku "Krynica", - pryznałasia Łarysa Ślesarava. - Pośpiechaŭ im! Chaciełasia-b, kab jany i nadalej byli takimi aktyŭnymi.

Śviatočnaja atmasfera ŭ hetki dzień nie zaminała havaryć i pra prablemy j dasiahnieńni z žyćcia nacyjanalnych supołak. Asnoŭnym pradmietam dla abmierkavańnia źjavilisia televizijnyja spravy.

— Hramadztvu važna bolš viedać pra nacyjanalnyja mianšyni, intehravacca j ruchacca ŭ adnym napramku. Hetamu spryjajuć tele- i radyjopieradačy pra nacyjanalnyja mianšyni, jakija, jak pakazvajuć dośledy, lubiać hledačy j słuchačy z tytulnaj nacyi, - zajaviła staršynia Rady nacyjanalnych supołak Litvy Gunta Ronie. - Šmat hadoŭ na Litoŭskaj televizii tranślavałasia pieradača "Labas", pryznačanaja małakolkasnym nacyjanalnym supołkam Litvy. Heta była ŭnikalnaja pieradača, u jakoj na dziaržaŭnaj movie pradstaŭniki supołak raspaviadali pra svaju dziejnaść, kulturu, tradycyi. Da žalu, u 2009 hodzie vypusk pieradačy z pryčyny finansavych ciažkaściaŭ byŭ pierapynieny. Što heta za małakolkasnyja nacyjanalnyja hrupy? Heta karaimy, tatary, małdavanie, rumyny, łatyšy, vuhorcy, estoncy, uzbeki, armianie, azerbajdžancy, cyhany, kazachi, niemcy, čačency, livancy. Usiaho kala 200 tysiačaŭ *padatkapłatnikaŭ u našaj krainie*, jakim nie staje svajoj infarmacyjnaj nišy. Šmat razoŭ źviartalisia ŭ Radu radyjo i televizii, da žalu, adkazu nie było. Ekanomiačy nievialikija srodki, hublajem našmat bolš. Pavažanyja! Litva - naš ahulny dom. Jakaja jana budzie - zaležyć ad nas usich. Dyk stvarajma jaje hetkaj, kab było dobra nam usim.

— Hetkaja prahrama patrebnaja, bo šmatkolkasnyja supołki majuć i padtrymku z boku svaich siabroŭ, i z boku dziaržavaŭ, a ich kolkaść dazvalaje znajści finansavańnie ŭ svaich asiarodkach, - zaznačyła Halina Miškinienie. - Adarvanyja ad svajoj radzimy supołki, naprykład, litoŭskija tatary ci karaimy, šmat inšych, patrabujuć publičnaj prastory, dzie jany zmahli-b šyrej pradstavić svaju kulturu, dziejnaść, svaju pracu, kab usia Litva i nia tolki Litva mahła-b pabačyć, što jany robiać.

Pavodle Gunty Ronie, na admysłovym pasiedžańni Rady nacyjanalnych supołak adbyłosia hałasavańnie za adradžeńnie pieradačy "Labas", stvaryłasia adpaviednaja kamisija, byŭ padrychtavany admysłovy list kiraŭnictvu Litoŭskaha radyjo i televizii. Adnak dahetul nie było nijakich zruchaŭ.

— My havaryli z premjer-ministram u hetaj spravie, kab isnavała pieradača, takaja, jak "Labas", pryznačanaja dla małakolkasnych nacyjanalnych supołak, kab hramadztva daviedałasia pra našaje žyćcio, tradycyi, prablemy, kab byŭ dyjaloh, kab pradstaŭniki tytulnaj nacyi j my lepš razumieli adzin adnaho, - paviedamiła Gunta Ronie. - Hetkaja pieradača pavinna isnavać, bo bolš *za dźvieście tysiačaŭ pradstaŭnikoŭ* nacyjanalnych mianšyniaŭ, što žyvuć u Litvie, zasłuhoŭvajuć, kab pra ich viedali, kab było ŭzajemaparazumieńnie i ŭzajemnaja talerancyja.

# Zianon PAŹNIAK: Treba nazapasić siłu



*Zianon Paźniak, palityk*



*Imantas Mialianas, etnakanfliktolah*

**Štohod 11 sakavika ŭ Litoŭskaj Respublicy śviatkujuć Dzień adnaŭleńnia niezaležnaści. Dvaccać šeść hadoŭ tamu, 11 sakavika 1990 hodu Viarchoŭnaja Rada Litoŭskaj Respubliki padpisała Akt, jaki abvieściŭ pra adnaŭleńnie niezaležnaści dziaržavy. Jość i ŭ Biełarusi dziaržaŭnaje śviata, jakoje, na pieršy pohlad, adpaviadaje litoŭskaj sakavickaj uračystaści. Hetaje śviata nazyvajecca Dniom niezaležnaści Respubliki Biełaruś. Štopraŭda, voś užo dvaccać hadoŭ pry sprobach dać vyznačeńnie hetamu čyrvonamu dniu kalendara vykarystoŭvajecca spres militarnaja rytoryka. Va ŭračystych aficyjnych pramovach zaŭždy adznačajecca, što 3 lipienia – dzień vyzvaleńnia biełaruskaj stalicy ad niamiecka-fašysckich zachopnikaŭ, i tamu Dzień niezaležnaści nahadvaje biełarusam pra kaštoŭnaść mirnaha žyćcia, kab žychary krainy, ich dzieci j unuki mahli spakojna i ŭpeŭniena hladzieć u budučyniu.**

Znamianalnaju ŭ ahulna-respublikanskim maštabie data 3 lipienia stała dvaccać hadoŭ tamu. Pavodle vynikaŭ referendumu, praviedzienaha 24 listapada 1996 hodu, za pieranos Dnia niezaležnaści Respubliki Biełaruś na 3 lipienia – "dzień vyzvaleńnia Biełarusi ad hitleraŭskich zachopnikaŭ u Vialikaj Ajčynnaj vajnie" – prahałasavała amal piać z pałovaj miljonaŭ biełarusaŭ. Štopraŭda, rečaisnaści hetkaja farmuloŭka pytańnia mahła-b adpaviadać tolki, kali razhladać Biełaruś u miežach, skažam, 1938 hodu. Miž tym dałučany ŭ 1939 hodzie horad Bieraście ŭ vyniku aperacyi "Bahracijon" byŭ zaniaty savieckimi vojskami tolki 28 lipienia 1944 hodu. Adnak niedakładnaść u biuleteniach pravieści referendum nie pieraškodziła: vidavočna, padčas vyznačeńnia losu maładoj biełaruskaj kanstytucyi padałasia nia nadta aktualnaj prablema pieranosu hałoŭnaha dziaržaŭnaha śviata na try tydni raniej. Dahetul, na praciahu piaci hadoŭ da listapadaŭskaha referendumu Dzień niezaležnaści Respubliki Biełaruś śviatkavaŭsia 27 lipienia. U hety dzień u 1990 hodzie viarchoŭny saviet tady jašče Biełaruskaj savieckaj sacyjalistyčnaj respubliki pryniaŭ Deklaracyju ab dziaržaŭnym suverenitecie Biełarusi. Štopraŭda, status kanstytucyjnaha zakonu hety dakumant nabyŭ tolki praz hod z hakam – 25 žniŭnia 1991 hodu. A jašče praź niekalki miesiacaŭ usia kraina zajmieła sučasnuju nazvu Respublika Biełaruś. Adbyłosia heta paśla likvidacyi Sajuzu savieckich sacyjalistyčnych respublik.

Nievyrazna arhumientavanyja pryčyny atajasamlivańnia Dnia niezaležnaści Biełarusi z dataju zavieršeńnia bajavych dziejańniaŭ u Miensku 3 lipienia 1944 hodu nie dazvalajuć nazvać jaho stoadsotkavym ekvivalentam litoŭskaha 11 sakavika. Akt pra adnaŭleńnie niezaležnaści Litvy nahadvaŭ pra toje, što, nie zvažajučy na histaryčnyja perypetyi, nia straciŭ jurydyčnaj siły Akt niezaležnaści Litoŭskaj Respubliki ad 16 lutaha 1918 hodu. Mienavita hetaj dacie całkam adpaviadaje dzień pieršaha abviaščeńnia Biełarusi niezaležnaj i volnaj dziaržavaj u Treciaj ustaŭnoj hramacie Rady Biełaruskaj narodnaj respubliki 25 sakavika 1918 hodu.

Zrešty, apošnim časam razmaŭlać na palityčnyja temy, viedučy całkam surjoznyja hutarki pra toje, što isnuje realnaja pahroza niezaležnaści nia tolki blizkich dziaržavaŭ-susiedak, ale j samoj Biełarusi, stała modnym u kožnaj prystojnaj kampanii. Voś i padčas letašniaj listapadaŭskaj sustrečy ŭ vilenskim Domie nacyjanalnych zhurtavańniaŭ ź lehiendaj biełaruskaj palityki Zianonam Paźniakom havorka viałasia pieravažna pra padziei, zdavałasia-b, suśvietnaha maštabu, jakija raptoŭna atrymali mažlivaść niepasredna ŭpłyvać na los žycharoŭ Litvy j Biełarusi.

U doŭhaj, bolš za hadzinu, pramovie biełaruskaha hramadzka-palityčnaha dziejača najčaściej zhadvałasia słova "palityka". Pavodle Zianona Paźniaka, kožny čałaviek moža razmaŭlać na temu palityki, i kožny maje svaju dumku. Pry hetym ludzi ŭžyvajuć u svaich acenkach, svaich razumieńniach palityki peŭnyja stereatypy, jakija sfarmavalisia ŭ hramadztvie ŭ asnoŭnym dziakujučy prapahandzie:

— Hetymi stereatypami čałaviek apieruje, dumajučy, što jon analizuje, raźbirajecca ŭ źjavach, i hetyja stereatypy akazvajucca nastolki mocnyja, što, kali daśviedčany čałaviek ci palityk havoryć pra niejkija rečy, jamu nichto nia moža vieryć, – zajaviŭ Zianon Paźniak. – U 90-ch hadoch, kali absalutna było ŭžo vidavočna, jakaja budzie palityka Rasiei, kali Jelcyn išoŭ da ŭłady, ab hetym my havaryli, i što takoje Jelcyn, i, kali jany voźmuć uładu, jakaja budzie palityka, što heta budzie palityka imperyjalistyčnaja, što heta vialikaja pahroza dla cyvilizacyi, dla kultury, dla niezaležnaści, hadoŭ dvaccać tamu ja napisaŭ cely artykuł na hetuju temu "O russkom impierializmie", i kali pra heta havaryli, to heta ŭ balšyni ludziej vyklikała peŭnaje nieparazumieńnie, maŭlaŭ, jak tak možna, Rasieja – tut-ža Jelcyn, demakratyja, jaki tut impieryjalizm? Heta było absalutna niezrazumieła, nie ŭsprymałasia da razumieńnia. Balšyni ludziej, jakija žyli savieckimi stereatypami, hetaja terminalohija była niezrazumiełaja, sami jany nie mahli analizavać i nijakaj pahrozy z boku Rasiei nie adčuvali. A pahroza ŭžo visieła nad nami.

— Bieź nijakich sumnievaŭ, hetkaja pahroza isnuje j ciapier, i nia tolki dla Litvy ź Biełaruśsiu, – miarkuje litoŭski etnakanfliktolah Imantas Mialanas. – Pa sutnaści, meta Pucina – usie byłyja savieckija krainy, tamu što bolš-mienš va ŭsich ich isnujuć separatysckija prajekty, kali sprabujuć arhanizavać paŭstańnie spačatku miascovych ruskich žycharoŭ, albo inšych ruskamoŭnych, što znachodziacca pad upłyvam rasiejskaj

